*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



**2017, № 8(18). Жнівень**

# Расійская імператрыца Кацярына II і палац Агінскага ў Слоніме




Сёлета споўнілася 220 гадоў з часу, калі перастала існаваць Слонімская губерня. Для нашага горада гэты гістарычны факт важны, паколькі ў апошнія стагоддзі Слонім — толькі цэнтр павета, раёна (яшчэ была акруга падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гадоў). А шанцаў стаць абласным горадам няма і наўрад ці яны з'явяцца ў бліжэйшай перспектыве. Не было б іх і тады, у канцы XVIII стагоддзя, каб не слонімскі староста Міхал Казімір Агінскі.

Праект Слонімскай губерні мае кароткую і цікавую гісторыю. Гэтая губерня згадваецца ў дакументах, хаця ў рэальнасці не існавала. У працэсе рэалізацыі замест губерні стварылі "намесніцтва"… Паспрабуем разабрацца ў пытанні, абапіраючыся на дакументы, апублікаваныя яшчэ ў часы існавання Расійскай імперыі. Бо ў апошнія дзесяцігоддзі ў публікацыях розных даследчыкаў хапае памылак і яны цяпер вандруюць па інтэрнэце.

14 снежня (25 снежня паводле новага стылю) 1795 года, пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, расійская імператрыца Кацярына II падпісала ўказ "Аб падзеле Вялікага Княства Літоўскага на дзве губерні". У ім адзначалася: *"Вобласць гэтую падзяліць на дзве губерні, прызначаючы губернскімі гарадамі Вільню і Слонім, і прыпісаўшы да іх акругі па зручнасці…"*.[1]

У той жа дзень імператрыца падпісала яшчэ адзін указ — "Аб далучэнні да Расійскай імперыі ўсёй часткі Вялікага Княства Літоўскага, якая па спыненні мяцяжоў у Літве і Польшчы занятая была войскамі". У ім таксама згадваецца заснаванне Слонімскай губерні з цэнтрам у нашым горадзе.[2]

Пакуль рыхтавалася рэалізацыя ўказу, вырашылі замест губерні стварыць Слонімскае намесніцтва. У той час у Расійскай імперыі "намесніцтва" было найвышэйшай адзінкай адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу. Розніца паміж губерняй і намесніцтвам была хіба толькі ў тым, што некалькімі намесніцтвамі кіраваў генерал-губернатар. Паводле ўказу Кацярыны II ад 8(19) жніўня 1796 года "Аб заснаванні Віленскага і Слонімскага Намесніцтваў, аб падзеле іх на уезды" (у некаторых публікацыях можна сустрэць памылковую згадку, што ўказ быў аб стварэнні губерняў), у Слонімскае намесніцтва мусілі ўвайсці Брэсцкі, Ваўкавыскі, Гродзенскі, Кобрынскі, Лідскі, Навагрудскі, Пружанскі і, зразумела, Слонімскі паветы.[3]

У той час у дакументах тэрміны "губерня" і "намесніцтва" нярэдка выкарыстоўваліся як сінонімы. Таму не трэба здзіўляцца, што ў той жа дзень, 8(19) жніўня Кацярына II падпісала ўказ генерал-губернатару Рэпніну "Аб розных распараджэннях, якія адносяцца да ўстройства Віленскай і Слонімскай Губерні". У гэтым дакуменце адзначаецца, што Слонім будзе "губернскім горадам". Але не гэта галоўнае. Расійская імператрыца піша: *"адносна наяўнага ў Слоніме была Літоўскага Гетмана Гра-*

*Працяг на ст. 3*

# Януш Дыбкоўскі

Восенню 1944 года ў Слоніме загінула група хлопцаў. Яны падарваліся на снарадзе, які спрабавалі разабраць. На сённяшні дзень удалося высветліць толькі адно прозвішча — Януш Дыбкоўскі, было яму 16 гадоў.

Пра гэты трагічны выпадак мне яшчэ ў канцы 1990-х гадоў распавёў слонімец Вячаслаў Сцяпура (1935 — 2012). Ён успамінаў, што тая трагедыя здарылася ў пачатку жніўня 1944-га (нядаўна высветлілася, што памыліўся на два месяцы): “Каля моста праз Шчару каля касцёла святога Андрэя было пакінута шмат снарадаў. І мы з хлопцамі хадзілі з іх порах даставаць. Аднойчы я выпадкова не пайшоў. Прыгнаў карову з пашы ў 11 гадзінаў і хацеў бегчы да хлопцаў, а маці не пусціла, сказала, каб накапаў бульбы. Пайшоў я на наша поле каля цяперашняга маслазаводу. Раптам чую: выбух. Пасля даведаўся, што з Дыбкоўскім (Сцяпура называў яго Дэбкоўскім — СЁ) былі яшчэ тры хлопцы. Усе яны падарваліся і загінулі… Мяне тады Бог уратаваў”.

Сцяпура падарыў фота 1930-х гадоў, на якім можна пабачыць маленькага Януша Дыбкоўскага, яго сястру і бацьку, капітана польскага войска, які трапіў у савецкі палон і верагодна загінуў у Катыні.

Нядаўна на Ружанскіх могілках удалося адшукаць магілу Дыбкоўскага. Надпіс на помніку дапамог удакладніць дату трагедыі — 7 кастрычніка 1944 года. “Загінуў трагічнай смерцю”, — напісана над датай. Помнік паставіла сястра. Які яе лёс? Зусім магчыма, што яна выехала ў Польшчу.

Вячаслаў Сцяпура ўспамінаў, што Януш Дыбкоўскі быў лідарам групы слонімскіх падлеткаў, беларусаў і палякаў. Ён нават пачаў ствараць з іх падпольную антысталінскую групу. Пасля яго заўчаснай смерці хлопцы засталіся без кіраўніка. Праз некалькі гадоў яны аднавілі групу, пачалі распаўсюджваць антысавецкія лістоўкі. Але гэта ўжо іншая гісторыя.



*Януш Дыбкоўскі (справа) з бацькам і сястрой. Фота 1930-х гадоў.*




*Магіла Януша Дыбкоўскага на Ружанскіх могілках у Слоніме.*

**●*Сяргей Ёрш***

# Расійская імператрыца Кацярына II і палац Агінскага ў Слоніме

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

*фа Агінскага дома, які можа паслужыць да адкрыцця гэтай Губерні, аб саступцы яго перадаручаем вам з ім дамовіцца, і якая будзе зроблена прапанова, да Нас прадаставіць".*[4]

Дык вось у чым прычына стварэння губерні/намесніцтва з цэнтрам у Слоніме. Дом/палац Агінскага з усёй інфраструктурай! У Санкт-Пецярбурзе ведалі пра наш горад, як пра буйны культурны цэнтр, у якім дзейнічаў оперны тэатр. Хіба гэтага было дастаткова імператрыцы, каб прызначыць яго цэнтрам вялікай тэрыторыі.

Хто ж быў першым слонімскім губернатарам? Ва ўказе Кацярыны II ад 14(25) снежня 1795 года згадваецца князь Рэпнін, "генерал-губернатар Ліфляндскі, Эстляндскі, Слонімскі і Віленскі".[5] Мікалай Рэпнін (1734 — 1801), князь, вядомы расійскі дыпламат, які прыклаў шмат высілкаў для развалу Рэчы Паспалітай, военачальнік. У 1794 годзе быў галоўнакамандуючым рускімі войскамі, якія душылі паўстанне ў Польшчы і ў ВКЛ. Імператрыца пісала ў тым жа дакуменце: "*Для аблягчэння вас у выкананні гэтых спраў, даручаных вам, папярэдне прызначаем у гэтыя новыя дзве Губерні Губернатарамі ў Віленскую Генерал-Маёра Тармасава і ў Слонімскую Генерал-Маёра Навіцкага, а ў дапамогу да іх Віцэ-Губернатарамі ў Губерню Віленскую Палкоўніка Фрызеля, у Слонімскую Калежскага Дарадцу Волкава...*".[6]

Атрымліваецца, што генерал-губернатар князь Рэпнін здзяйсняў агульнае "палітычнае" кіраўніцтва чатырма губернямі. Ён — першы і апошні слонімскі генерал-губернатар. А генерал-маёра Івана Іванавіча Навіцкага можна лічыць першым і апошнім слонімскім губернатарам, ён непасрэдна знаходзіўся ў на-




***Князь Мікалай Рэпнін, слонімскі генерал-губернатар.***

шым горадзе (а яму дапамагаў калежскі дарадца Мікалай Волкаў, віцэ-губернатар), займаўся фінансавымі і гаспадарчымі справамі. Пра Навіцкага вядома мала. Ён служыў у рускай арміі з 1766 года, званне генерал-маёра атрымаў у верасні 1793 года. Слонімскім намесніцтвам кіраваў да яго ліквідацыі. Застаецца адкрытым пытанне, ці паспеў Навіцкі сфармаваць у Слоніме ўсе неабходныя адміністрацыйныя ўстановы: канцылярыю, губернскае праўленне ды іншыя структуры. І ці заняў ён палац Агінскага?

Відаць, апошні ўказ імператрыцы, які адносіўся да Слонімскага намесніцтва (губерні), з'явіўся 29 кастрычніка 1796 г. Яна выдала яго Ліфляндскаму, Эстляндскаму, Віленскаму і Слонімскаму генерал-губернатару князю Рэпніну: "Аб арганізацыі пошты ў Губернях Віленскай і Слонімскай".[7]

У кнізе "Памяць. Слонімскі раён" можна прачытаць, што 12 снежня 1796 года Слонімская губерня была аб'яднана з Віленскай у Літоўскую губерню. І зроблена гэта было ўказам імператрыцы Кацярыны II.[8] Але ж яна памерла 6(17) лістапада 1796-га! Насамрэч такое рашэнне прыняў імператар Павел I. Ужо ва ўказе ад 4(15) снежня 1796 года ён дае даручэнне слонімскаму (а таксама Ліфляндскаму, Эстлянскаму і Віленскаму) генерал-губернатару князю Рэпніну працягваць збіраць падаткі ў "Літоўскай губерні" на ранейшых умовах.[9] Рашэнне пра скасаванне Слонімскай і заснаванне Літоўскай губерні ён прыняў у першы месяц свайго праўлення. 12(23) снежня 1796 года з'явіўся ўказ імператара, "дадзены Сенату" — "Аб новым падзеле Дзяржавы на Губерні". У ім чытаем: "*З вызначаных раней у Вільні і Слоніме Губерній скласці адну Літоўскую ў першым са згаданых гарадоў...*".[10] 6(17) лютага 1797 года Павел I падпісаў указ "Аб арганізацыі замест прызначаных раней дзвюх Губерняў Віленскай і Слонімскай, адной Губерні, пад назвай Літоўскай".[11] Ад гэтай даты Слонімскае намесніцтва (губерня) перастала існаваць. Праз некалькі гадоў будзе створана Гродзенская губерня і наш горад трапіць у яе склад.

***●Сяргей Ёрш***

*[1] Сборникъ документовъ, касающихся административнаго устройства Северо-Западнаго края при императрице Екатерине II: (1792 — 1796). — Вильна, 1903. С. 71-72.*

*[2] Тамсама. С. 73.*

*[3] Тамсама. С. 88.*

*[4] Тамсама. С. 89.*

*[5] Тамсама. С. 71.*

*[6] Тамсама. С. 72.*

*[7] Тамсама. С. 90-92.*

*[8] Анішчанка Я. Слонімская губерня // Памяць. Слонімскі раён. — Мінск: БЕЛТА, 2004. С 93.*

*[9] Полное собраніе законовъ Россійской имперіи, съ 1649 года. Т. XXIV. — Санктъ-Петербургъ, 1830. С. 217.*

*[10] Тамсама. С. 230.*

*[11] Тамсама. С. 318.*

# Начальніка штабу савецкага партызанскага атрада лавілі ў лясах пасля вайны

Пра савецкага партызана Пятра Бухарэўскага дадзеныя давялося збіраць у архівах, ва ўспамінах людзей, у нешматлікіх публікацыях. Яны далёка не поўныя. Тым не менш, удалося скласці з аскепкаў яго біяграфію.

Бухарэўскі (варыянт прозвішча — Бухароўскі) Пётр Іванавіч, 1919 года нараджэння. Па некаторых звестках, ураджэнец Кіславодска. Партызаніў з ліпеня 1941 года ў Слонімскім раёне. Быў шэраговым партызанскай групы, пасля яе камандзірам. Разам з групай увайшоў у атрад імя Панамарэнкі (пазней ён быў у складзе брыгады імя Ракасоўскага). У траўні-ліпені 1943-га — начальнік штабу атрада, з чэрвеня 1943 года яшчэ і камандзір разведузвода.



*Пётр Бухарэўскі (справа) падчас нямецкай акупацыі, 1944 г. Друкуецца ўпершыню.*

У Чырвонай Арміі Бухарэўскі быў шэрагоўцам. Летам 1941 года трапіў у акружэнне, але ў палон не здаўся. Разам з групай іншых акружэнцаў са зброяй у руках хаваўся ў лясах цяперашніх Слонімскага і Баранавіцкага раёнаў. Першую зіму, самую цяжкую, ён правёў у лесе. Былы савецкі партызан Мікалай Праўдзік у сакавіку 1997-га ўспамінаў, што да канца 1942 года дзейнічалі асобныя партызанскія групы. Найбольш людзі гаварылі пра групу Бухарэўскага. Калі ўтварыўся атрад імя Панамарэнкі, камандзірам выбралі Івана Зайцава, Пётр Бухарэўскі стаў… начальнікам штабу. Яго называлі Пеця “Вялікі” ці Пеця “Чубаты”.

Былы партызан атрада імя Панамарэнкі Сцяпан Жукоўскі, 1922 года нараджэння, у 1997 годзе ўспамінаў, што Пётр Бухарэўскі быў “кавалерыст-акружэнец, казак”. Паводле слоў Жукоўскага, ён нярэдка ў Харашэвічах на кані “розныя фігуры паказваў”. У дыверсіях на чыгунцы Пеця “Чубаты” не ўдзельнічаў, але бываў у засадах. Быў смелы і здольны. Аднойчы з засады вырваўся нямецкі афіцэр, дык менавіта Бухарэўскі яго затрымаў. У адным з баёў ён атрымаў раненне ў нагу, лячыўся.

Вясной-летам 1942 года шэрагі партызан павялічыліся за кошт мясцовых жыхароў, якія далучыліся да чырвонаармейцаў-акружэнцаў. Вяскоўцы (пераважна падлеткі) дапамагалі гэтым першым партызанам, кармілі іх. Калі ж яны набралі немалую сілу, то ўжо сталі самі забіраць, што хацелі…

Васіль Струпавец, 1928 года нараджэння, успамінаў, што ён быў сярод тых хлопцаў з Якімавічаў, якія дапамагалі партызанам, у тым ліку і Бухарэўскаму. А 28 красавіка 1943 года “Чубаты” прысутнічаў на расстрэле сям’і Струпаўцоў.

“Прыехалі гэтыя партызаны, як яны сябе звалі, — расказваў Васіль Струпавец. — Гэты Пеця “Чубаты”…, Зайцаў, “Сібірак”-Багуслаўскі, а дваіх не ведаю. Пяць чалавек на конях. А мы па вуліцы бегалі, гулялі. Я крычу братам: “Пабеглі, гэта да нас паехалі!”. А каб мы не пайшлі дахаты, то паўцякалі б. Бацьку, сястронку то забілі б...

Бацька ляжаў, адпачываў на ложку. Чытаў кнігу ці газету — не помню. Мы прыбеглі ўсе ў хату. Заходзіць Пеця “Чубаты”. А ў нас хрысціны былі, на стале яшчэ нешта было, гарэлка стаяла. Пеця “Чубаты” выпіў стакан гарэлкі. Ножык ляжаў мой на стале. Пеця забраў мой ножык у кішэню. Я стаў прасіць: “Дзядзя Пеця, аддайце ножык, мне трэба ножык! “А он тебе больше не пригодится”, — так сказаў. Ну я значэння ніякага не прыдаў гэтаму, што не прыгадзіцца...

Падняўся бацька. “Давай пашпарты”, — кажа Пеця. Бацька аддаў пашпарты, маткін і свой. “Чубаты” пасядзеў, пахадзіў, забраў пашпарты і выйшаў на вуліцу. Мінуты тры можа не было яго. Яны пад вокнамі стаялі, каб ніхто быццам не выскакнуў. Аб гэтым мы не ведалі спачатку…”.

Па словах Струпаўца, сам “Чубаты” ў расстрэле не ўдзельнічаў, у хату не заходзіў. Стралялі іншыя. Былі забітыя бацькі Струпаўца Васіль Рыгоравіч (1893 г. н.) і Соф’я Ільінічна (1910 г. н.), браты Мікалай (1930 г. н.) і Міхаіл (1937 г. н.), сястра Раіса (1943 г. н.). Васіль і Аркадзь (1932 г. н.) былі цяжка параненыя, пасля іх вяскоўцы адвезлі ў бальніцу ў Слонім. Аркадзь трагічна загіне пасля вайны, і Васіль застанецца адзін…

*Працяг на ст. 5-6*

А Пецц "Чубаты" працягваў сваё вясёлае партызанскае жыццё. У лесе было сумнавата, дык ён часта бываў у вёсках. Але ў другой палове 1943 года на Слонімшчыну прыбылі прадстаўнікі з-за лініі фронту, якія пачалі спрабаваць арганізаваць парадак у партызанскіх атрадах. У Нацыянальным архіве Беларусі аўтару гэтых радкоў удалося выявіць наступны дакумент, які падаем у мове арыгіналу з захаваннем усіх асаблівасцяў:

Сов. Секретно
Командиру Партизанского Отряда им. Пономаренко тов. З а й ц е в у.

---

За п[ь]янку и дыбоширство 28 Декабря 1943 г. в дерев. Нагуевичи, Командира разведки Вашего отряда Бухаревского П. направ[ь]те в распоряжение Мижрайцентра.

УПОЛНОМОЧЕННЫЙ ЦЕНТР. ШТАБОМ ПАРТИЗАНСКОГО ДВИЖЕНИЯ И ЦК. КП./б/ Б по Слонимскому Межрайцентру. —(А Л Е К С Е Й)
НАЧАЛЬНИК ВОЕННО-ОПЕРАТИВНОГО ОТДЕЛА СЛОНИМСКОГО МЕЖРАЙЦЕНТРА —— (Д У Д А Р Ь)

3-го Января 1944 г.*

**У дакуменце быў памылкова пададзены 1943 год.*

У такіх сітуацыях не цырымоніліся, маглі і расстраляць. Але ці ездзіў Бухарэўскі на выклік, невядома. Выратаваць яго магло стварэнне партызанскай брыгады імя Ракасоўскага (камандзір — капітан Якаў Прыданнікаў), загад пра гэта быў выдадзены на наступны дзень, 4 студзеня 1944-га. Атрад імя Панамарэнкі быў уключаны ў яе склад. Камандзіра атрада Зайцава забралі на павышэнне — намеснікам камандзіра брыгады па разведцы. Магчыма, з яго ўдзелам Пятра Бухарэўскага ў той раз і ўдалося "адмазаць".




***Помнік сям'і Струпаўцоў на Якімавіцкіх могілках.***

Але наўрад ці ў далейшым Бухарэўскі змяніў ужо звыклае жыццё. Працягваў гуляць. Відаць, і ў іншых атрадах не ўдавалася паспяхова змагацца з такой вольніцай. Не дзіўна, што 10 красавіка 1944 года ўпаўнаважаны Цэнтральнага штабу партызанскага руху і ЦК КП(б)Б па Баранавіцкай вобласці генерал-маёр "Платон" (Васіль Чарнышоў) выдаў загад № 26, у якім ёсць і такія радкі: "*...Работа разведвальных груп [партызанскіх атрадаў] не кантралюецца, некаторыя групы безкантрольна і бязмэтна бавяць час на раёне, п'янствуюць і дазваляюць сабе розныя антымаральныя ўчынкі, якія прыводзяць да страты пільнасці*".

Летам 1944 года частку партызан адправілі на фронт, іншыя засталіся на Слонімшчыне, служылі ў міліцыі. Бухарэўскі быў участковым у Альбярціне, прапрацаваў да 1945 года, калі знік. Нібыта, яго збіраліся арыштаваць, а ён вельмі любіў свабоду…

На пытанне, чаму Пеця "Чубаты" пасля вайны хаваўся па лясах, адзін з былых партызан атрада імя Панамарэнкі сказаў: "Напэўна, спадабалася партызаніць...".

На Слонімшчыне і ў суседніх раёнах Пётр Бухарэўскі хаваўся некалькі месяцаў, а пасля з'ехаў у Расію, у Кіславодск. Але там уладкавацца яму не ўдалося, магчыма, з-за таго, што шукалі. Схавацца ён мог толькі ў мясцінах, якія выдатна вывучыў падчас партызаншчыны. І Пеця "Чубаты" вярнуўся. Дакладна невядома, ці быў ён на нелегальным становішчы адзін,

ці наладзіў сувязь з іншымі "ляснымі братамі" (а сярод іх былі былыя савецкія партызаны). Некаторыя слонімцы згадваюць пра антысавецкія акцыі, якія ён, нібыта, праводзіў. Але дакументальна гэта пакуль не пацверджана, таму згадваць пра іх у гэтай публікацыі не будзем. Васіль Струпавец падкрэсліваў, што да "пасляваенных палітычных партызанаў" Пеця "Чубаты" не меў ніякага дачынення. Яму трэба было выжыць і выжываў ён за кошт людзей, у якіх браў ежу, адзенне. "Ён і ў вайну палітычным не быў, не стаў палітычным ён і пасля вайны", — казаў Струпавец.

Былы партызан атрада імя Панамарэнкі Мікалай Праўдзік у сакавіку 1997 года распавядаў аўтару гэтых радкоў, што савецкім органам дзяржаўнай бяспекі дапамог злавіць Пятра Бухарэўскага Фёдар Кавалеўскі. Гэта быў дзеяч КПЗБ, былы вязень польскіх турмаў і канцлагера ў Картуз-Бярозе. Кавалеўскі добра ведаў Бухарэўскага, паколькі ў 1944 годзе знаходзіўся пры атрадзе імя Панамарэнкі ў якасці намесніка ўпаўнаважанага Слонімскага міжрайпартцэнтра (пра гэта ў сваіх успамінах піша былы камандзір атрада Іван Анохін) і яны не маглі не сустракацца.

"Фёдар Кавалеўскі дапамог, — успамінаў Праўдзік. — Ён яго высачыў. Кавалеўскі сам мне расказваў. Дзесьці ў Палонцы ён Бухарэўскага ўбачыў. Зайшоў у нейкую хату, а там ён сядзіць, выпівае... Ну і паведаміў міліцыі, каб асцярожнымі былі, бо ён са зброяй ходзіць. Ну і яго ўзялі, па падказцы Кавалеўскага. Пасадзілі…".

Суд над Пятром Бухарэўскім праходзіў у Баранавічах, у тагачасным абласным цэнтры. Дакладная яго дата пакуль невядомая. Магчыма, гэта быў 1947 год. Няма інфармацыі і пра тое, які тэрмін зняволення атрымаў Пеця "Чубаты". Але ён выжыў у лагерах і вярнуўся ў свой Кіславодск.

У жніўні 1997 года ў Нагуевічах я сустрэўся з мясцовай жыхаркай Аленай Салейка, 1922 года нараджэння (у дакументах была запісана 1923 г. н.). Вось што яна прыгадала пра сваё знаёмства з Пятром Бухарэўскім:

"Бухарэўскі быў у атрадзе Зайцава начальнікам разведкі. Час быў такі ваенны. Я яго не хацела, але ён мяне не адпускаў... Як вайна скончылася, ён у мяне хаваўся. Ён паўсюль быў. У Кіславодск паехаў, і я з ім. У 1945 годзе. Ён адтуль быў родам. Там у яго хата была, сям'я. Жонкі ў яго не было, бацькі былі, тры браты, сястра. Ён дахаты прыехаў, хацеў ужо там жыць. А я не магла ад яго адказацца. Заставіў мяне сілай...

Яго там не прыпісвалі, а я не магла вырвацца. Пару месяцаў пабыла, а пасля я яго кінула і вярнулася назад. А Пеця там застаўся. Нічога я больш пра яго не знаю".

Салейка лічыла, што Бухарэўскага падставіў "Віцякамісар", які меў нейкую ўплывовую пасаду ў Слоніме і "займаўся махінацыямі", уцягнуў у свае справы і яго. Гэта і была прычына, чаму ён перайшоў на нелегальнае становішча ў 1945 годзе. А вось пра тое, што было з Пятром Бухарэўскім пасля Кіславодска, яна, нібыта, не ведала. Няўжо ён яе не наведаў? З іншага боку за яе домам маглі сачыць — чакалі яго візіту, і вопытны партызан гэта разумеў.

Алена Салейка гаварыла, што Бухарэўскі да яе не прыязджаў і не пісаў. Была толькі адна паштоўка з Кіславодска, якую яна захавала: "Поздравляю Вас с праздником Днем 8 марта. Желаю Вам счастья в жизни и долгих лет супружеской также. Петя". На паштоўцы не стаіць дата. Але яе можна прыблізна вызначыць па даце выпуску самой паштоўкі — 1968 год.



*Камандаванне брыгады імя Ракасоўскага ў вызваленым Слоніме, ліпень 1944 года.*



*Алена Салейка паказвае паштоўку ад Пятра Бухарэўскага. Нагуевічы, жнівень 1997 года.*

●*Сяргей Ёрш*

# Зямля пад чорнымі крыламі

Ці прыслухоўваліся вы калі-небудзь да таго, як шуміць вецер у сасновым бары? Ціха, павольна. Здаецца, што гэта не паветра, а сам час, настойліва прасочваючыся праз іголкі, неўзабаве стамляецца і, прыпыняючы свой ход, пачынае адчыняць табе свае старажытныя таямніцы. Усё навокал змяняецца. Старое саступае сваё месца новаму, толькі гэты шум ветра ў сасновым бары заўжды застаецца нязменным. Менавіта такім жа, як і цяпер, чулі яго нашыя продкі і сто, і пяцьсот, і тысячу гадоў таму. Кім жа яны былі, як жылі і ў што верылі?




***Мапа рассялення славянскіх плямён у раннім сярэднявеччы паводле Вялікага гістарычнага атласу, т. I.***

Панямонне — прыгожы, маляўнічы край пясчаных пагоркаў і сасновых лясоў. Тут, раскінуўшы свае прытокі, павольна нясе воды ў Балтыйскае мора ганарлівы Нёман. З старажытных часоў гэтыя землі былі калыскай усходніх балцкіх культур, якія нібы па чарзе узнікалі, расквіталі і, прыходзячы ў заняпад, павольна саступалі месца наступным. Сітуацыя змянілася толькі ў раннім сярэднявеччы, калі на Панямонні пачало з'яўляцца першае славянскае насельніцтва.

Што ж вымусіла славян сысці з нажытых месцаў і перасяляцца ў чужыя землі балцкіх плямён? Гэта пачалося ў Кіеве, у канцы Х стагоддзя. Пад уплывам важкіх палітычных абставін князь Уладзімір вырашае ахрысціць падуладныя Кіеўскай Русі землі ва ўсходні варыянт хрысціянства. Зразумела, што людзі так проста не жадалі адмаўляцца ад веры продкаў. Дзеля таго, каб лепш зразумець абставіны, у якіх трапіў тагачасны люд, прапаную ўявіць сабе, што ў наш час дзяржава вымушае народ адмовіцца ад хрысціянства і прыняць іслам або будызм. Зразумела, рэзанансу ў грамадстве было б не пазбегнуць. Так і ў Х стагоддзі незадаволеных, асабліва на перыферыі Русі, была вялікая колькасць. Пасля прымусаў і рэпрэсій з зямель, падуладных Кіеўскай Русі, пачынаецца бежанства. Славянскія язычнікі, не жадаючыя адмаўляцца ад веры продкаў і прымаць візантыйскую рэлігію, зрываюцца з абжытых месцаў і абіраюць сваім прытулкам балцкае Панямонне. З цягам часу, дзеля таго, каб адрозніваць язычнікаў ад хрысціян, апошнія пачалі называць тэрыторыю, на якой рассяліліся "ўцекачы на Панямонне", Чорнай Руссю, а ўсе астатнія навакольныя землі — Белаю. Такім чынам адносна невялікая апазіцыйная балцка-славянская язычніцкая супольнасць дала назву нашай сучаснай краіне і нацыі. Калі б не было Чорнай Русі, не было б і Белай. Тэрытарыяльна землі Чорнай Русі прасціраліся паміж сучаснымі гарадамі Ваўкавыск, Слонім і Навагрудак.




***Мапа узнікнення ВКЛ паводле Вялікага гістарычнага атласу, т. I.***

Неўзабаве свет спазнаў усходнюю навалу. Ніхто не мог супрацьстаяць мангольскаму націску. Кіеўская Русь не была выключэннем. У 1240-1241 гадах быў разбураны Кіеў. Знешні палітычны і рэлігійны ўплыў Кіеўскай Русі на памежныя тэрыторыі прыпыняецца. Дзякуючы гэтаму каля 1243 года князем Навагародка становіцца Міндоўг.




***Мапа межаў Навагародскага ваяводства (пад № 19) ВКЛ XVI ст. паводле Вялікага гістарычнага атласу, т. I.***

Гэтая падзея дае пачатак палітычнаму аб'яднанню літоўскіх і чорнарускіх зямель, утварэнню Вялікага княства Літоўскага. Парадаксальна, але захапіўшы і абклаўшы данінай палову Еўропы, навешаўшы ярлыкоў падуладным князям, мангольскія заваёўнікі быццам бы не заўважылі маладога Літоўскага княства. Вядома толькі аб некалькіх дробных нападах, у якіх сумесна з ардынцамі удзельнічалі і валынскія князі, якія атрымалі ярлыкі. Вялікае княства Літоўскае так і не было захоплена мангола-татарамі і ніколі не плаціла ім даніну. Як гэта звычайна здараецца, імперыі рана ці позна гінуць, не стала выключэннем і Залатая Арда. Унутраныя звады і эпідэміі паступова дробяць і знішчаюць мангольскае войска,

што дае магчымасць суседскім княствам вызваліцца ад даніны і распаўсюдзіць свой уплыў на мінулыя ардынскія ўладанні.

Вялікае княства Літоўскае — апошняя язычніцкая краіна ў Еўропе. З часоў свайго ўзнікнення і аж да 1387 года адной з афіцыйных дзяржаўных рэлігій у ім было язычніцтва. І нават пасля гэтай даты ў ВКЛ заставалася адна правінцыя, якая была звернутая ў хрысціянства толькі пасля Грунвальдскай бітвы, аж у 1413 годзе.

На самой жа справе ў асноўным хрысціянізацыя датычылася толькі манарха і феадалаў княства, а просты люд яшчэ доўга, аж да пачатку XVII стагоддзя таемна захоўваў веру ў багоў продкаў.

Лёс склаўся так, што першая сталіца Вялікага княства Літоўскага супала з неафіцыйнай сталіцай Чорнай Русі. Наваградак (Навагародак) — старажытная вотчына язычніцкіх ліцьвінскіх князёў, славутае месца з багатым гістарычным мінулым. І хоць з 1323 года сталіцай Вялікага княства Літоўскага становіцца Вільня, Наваградак застаецца цэнтрам удзельнага княства, у якое таксама ўваходзяць Слонім і Ваўкавыск. Пазней, у студзені 1507 года, было ўтворана Наваградскае ваяводства, а 26 ліпеня 1511 года Наваградак атрымаў магдэбургскае права.

Паводле звестак з гербоўніка польскага геральдыста XVI стагоддзя Барташа Папроцкага, Наваградскае ваяводства ўжывала за герб чорнага анёла ў чырвоным полі. На той момант межы ваяводства прыкладна супадалі з межамі старажытнай Чорнай Русі. Не выключана, што дзякуючы менавіта гэтай акалічнасці анёл і атрымаў свой нехарактэрны колер.



Пасярод старажытнай Чорнай Русі, амаль на самай мяжы сучасных Слонімскага і Зэльвенскага раёнаў, знаходзіцца маляўнічае Бяздоннае возера. На яго беразе, паросшым сасновым лесам, размешчаны яцвяжскі каменны могільнік. Паводле інфармацыі атрыманай дзякуючы шматлікім археалагічным даследаванням, пахаванні на ім праводзіліся па язычніцкім абрадзе, апошнія з іх датуюцца пачаткам XVII стагоддзя. Дзіўна тое, што могільнік ёсць, а паселішча, якое ім карысталася, так і не знойдзена.

Але сталыя жыхары бліжэйшай да возера вёскі Клепачы могуць расказаць вельмі цікавае паданне.

Калісьці на месцы Бяздоннага возера стаяла вялікая вёска. Аднойчы, ператварыўшыся ў жабрака, зайшоў у гэтую вёску Бог. Ён доўга хадзіў ад хаты да хаты і пытаў хлеба, але ніхто так і не даў яму ні аднаго кавалачка. Толькі ў апошняй хаце, у якой жыла маладая ўдава з некалькімі малымі дзецьмі, Бог атрымаў скарынку хлеба. Жанчына жыла бедна і падзялілася з ім апошнім. У падзяку за дабрыню, Бог распавёў удаве, што вёска хутка будзе знішчана і знікне. Потым ён загадаў жанчыне забраць дзяцей, бегчы прэч і ні пры якіх абставінах не азірацца. Удава паспяшалася выканаць загад, але адбегшыся на невялікую адлегласць і пачуўшы за спіною моцны гром, гучныя крыкі і стогны, не вытрымала і азірнулася. Замест сваёй роднай вёскі, яна ўбачыла вялікае блакітнае возера. Але, азірнуўшыся, жанчына разам з сваімі дзецьмі ў момант ператварылася ў камяні, якія да нашых дзён стаяць на паросшым сасновым лесам беразе Бяздоннага возера.

Хутчэй за ўсё, гэтае паданне ўзнікла ў другой палове XVII стагоддзя, пасля таго як могільнік быў закінуты. Такім чынам тагачасныя мясцовыя жыхары спрабавалі растлумачыць сабе таямнічае ўзнікненне высокіх надмагільных камянёў, пакінутых папярэднім яцвяжскім насельніцтвам.

Ці прыслухоўваліся вы калі-небудзь да таго, як шуміць вецер у сасновым бары? Тут, на беразе Бяздоннага возера, каля блакітнай вады, сярод старажытных надмагільных камянёў ціха пяе вечнасць. Сюды адзін раз на год, у ноч гібелі вёскі, каб паграць на дудзе, з нябёсаў спускаецца чорны ліцьвінскі анёл. У той час усё навокал заціхае, толькі рэха, адгукаючыся з супрацьлеглага берагу, безвынікова спрабуе паўтарыць прыгожую, чароўную мелодыю. Толькі мелодыя гэтая сумная. Сумная, як паданне пра Бяздоннае возера, сумная, як гісторыя Чорнай Русі.

●***Міхаіл Шуляк***

# Невядомы ліст жонкі Янкі Купалы да Аляксандра Жыткевіча з Вялікай Кракоткі

У музеі беларускай кнігі ў Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа захоўваюцца кнігі з аўтографамі, лісты, фотаздымкі, граматы, альбомы з Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі імя Янкі Купалы, якая ўжо не існуе.

Справа ў тым, што ў 1927 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка вясковай моладдзю была створана і адкрыта сельская бібліятэка імя Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры Беларусі, якой было нададзена імя Песняра беларускага народа. Бібліятэка праіснавала 80 гадоў. Яна перажыла ўсе войны, рэпрэсіі, калектывізацыю, савецкі час, а вось сённяшні час знакамітая Купалаўская бібліятэка на Слонімшчыне перажыць не змагла — яе ліквідавалі. Бібліятэку ў Вялікай Кракотцы ў свой час наведалі амаль ўсе беларускія пісьменнікі, некалькі разоў у бібліятэцы гасціла жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.

Пасля вайны бібліятэкай у Вялікай Кракотцы загадваў франтавік Аляксандр Жыткевіч. Я памятаю яго, некалькі разоў сустракаўся з ім у Вялікай Кракотцы, калі разам з паэтам Анатолем Іверсам мы там гасцілі. Гэта быў шчыры беларус, апантаны бібліятэчнай справай чалавек, які любіў кнігі, творчасць Янкі Купалы, паважаў літаратараў і шмат з імі перапісваўся, запрашаў іх у госці, сустракаўся. Аляксандр Іванавіч моцна сябраваў і з жонкай Янкі Купалы Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч. Дзякуючы ёй, у Вялікую Кракотку для бібліятэкі штодзень прыходзілі лісты, кнігі, альбомы, сувеніры ад пісьменнікаў і дзеячаў культуры. Перапісваўся Аляксандр Жыткевіч і з жонкай Янкі Купалы. Пакуль адшуканы і захаваўся толькі адзін ліст Уладзіславы Францаўны. Ён захоўваецца сёння ў музеі беларускай кнігі Слонімскай раённай бібліятэкі імя Якуба Коласа. Ліст заслужанай дзеячкі культуры Беларусі Уладзіславы Луцэвіч у Вялікую Кракотку быў напісаны за два месяцы да яе смерці. Ён быў напісаны на рускай мове. Публікуем яго ў перакладзе на беларускую мову.

27/XII 59

Уважаемый Александр Иванович! Вы не думайте, что я забыла Вас. От всего сердца благодарю за Вашу преданную большую работу по увековечиванию литературного наследия Янки Купалы. Я всегда отношусь с глубоким уважением

27.12.1959

*Паважаны Аляксандр Іванавіч!*

*Вы не думайце, што я забылася пра Вас. Ад усяго сэрца дзякую за Вашу адданую вялікую працу па ўвекавечанню літаратурнай спадчыны Янкі Купалы. Я заўсёды адношуся з глыбокай павагай да Вас. Але ўжо другі год я зусім захварэла. І ўжо ў гэтым годзе прабыла некалькі месяцаў у бальніцы. Вось чаму я не пісала Вам. Стала поўнасцю інвалідам. Не хоча працаваць сэрца, ужо каля года я зусім не магу есці, стан вельмі сур'ёзны. Цяпер пачалі апухаць ногі. Вось якой я стала хворай. Ніколі не падумала б, што гэта са мной здарыцца. Буду вельмі рада, як вы, калі будзеце ў Мінску, наведаеце мяне. У лістападзе мы пераехалі ў новы будынак музея. Вельмі зручны, прыгожы, пабудаваны на тым месцы, дзе быў наш дом. Пачынаем афармляць новую экспазіцыю, пашыраем выставу да 11-12 пакояў. Уся бяда — гэта маё дрэннае здароўе. Зусім не магу хадзіць, а хочацца працаваць і ўсюды паглядзець самой. На днях вышлю Вам альбом нашай музейнай працы "Жыццё і творчасць Янкі Купалы". Раю вам выпісаць некалькі асобнікаў праз "Бібкалектар", потым яго не будзе. Вельмі прашу пісаць мне і не злавацца, калі я не часта Вам пішу. Прашу прыняць самыя шчырыя пажаданні з Новым годам. Жадаю Вам, Вашай сям'і і ўсім чытачам і жыхарам Вялікай Кракоткі добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і плённай працы на карысць нашай вялікай, дарагой савецкай радзімы. Моцна цісну Вашу руку. Заўжды паважаная Вас Ул. Луцэвіч. Адрас музея: вуліца Янкі Купалы, № 4. Тэлефон: 2-37-10 ці 2-33-86. Мой хатні тэлефон: 3-13-66.*



***Жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч выступае на 30-годдзі Вялікакракоцкай бібліятэкі імя Янкі Купалы Слонімскага раёна, 1957 г.***

Уладзіславы Францаўны Луцэвіч не стала 25 лютага 1960 года. Захавалася і некалькі здымкаў, калі яна наведвала Вялікую Кракотку. Адзін з іх сёння публікуем.

●***Сяргей Чыгрын***

# Падземны тунэль на тэрыторыі аўтарамонтнага завода

Упершыню пра гэтае здарэнне я пачуў ад краязнаўцы і археолага Васіля Супруна. У сакавіку 1997 года ён распавядаў, што падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гадоў ці ў першыя пасляваенныя гады ў Слоніме на тэрыторыі, на якой з часам быў пабудаваны аўтарамонтны завод, падчас земляных работ выявілі фрагмент падземнага тунэля. Сведкі таго здарэння палічылі, што гэта быў легендарны падземны ход ад царквы св. Тройцы (цяперашняга сабору св. Тройцы) ў бок Жыровічаў.

Іншых сведчанняў пра выяўленне згаданага фрагмента падземнага тунэля доўгі час не ўдавалася знайсці. Аднак у сакавіку 2016 года пашанцавала. Слонімец Васіль Іванавіч Рубец, сталы чытач “СК”, распавёў гісторыю, якую пачуў ад бацькі.

Здарэнне адбылося ў пачатку 1960-х гадоў (магчыма, у 1962-м) на тэрыторыі АРЗ. У адзін дзень там часткова праваліўся пад зямлю грузавік (амерыканскі “Studebaker”). Машыну адтуль выцягнулі, пачалі аглядаць правал. Пабачылі падземны тунэль, які ішоў паралельна рэчцы/дамбе. Ён быў часткова затоплены, але на нейкую адлегласць прайсці было можна. Тыя мужчыны, якія спусціліся пад зямлю, змаглі прайсці ў бок горада каля 30 метраў. Яны казалі, што ў тунэлі было шмат чалавечых костак. Таксама там знайшлі нейкую “сярэбраную бочку”. На жаль, пакуль гэта ўся інфармацыя. Трэба пашукаць дакументы пра тое здарэнне ў архівах.

Што гэта мог быць за тунэль? Версія толькі адна — падземны выхад з былога кляштара бенедыктынак (цяперашні будынак ліцэю, раней — СШ №1). Ён вядомы з 1669 года, спачатку быў драўляным. Якраз у той час і будаваліся ў Слоніме падземныя тунэлі. І раней была ўпэўненасць, што падземны выхад з кляштара да ракі існаваў і яго працягласць магла складаць некалькі дзясяткаў метраў. Аднак цяпер бачым, што тунэль мог складаць некалькі соцень метраў. А значыць, тайны выхад рабіўся больш бяспечным. У выпадку аблогі кляштару варожым войскам можна было незаўважна пакінуць яго тэрыторыю.




*Падземны ход, выяўлены ў 2016 годзе ў Жытоміры*

Мураваны кляштар пабудавалі ў 1801 годзе, ужо пры расійскіх уладах. У той час пабудова такога тайнага тунэля была ўжо немагчымая. Ды і патрэбы ў ім не было. Падчас будаўніцтва мураванага кляштару старое падзямелле маглі альбо заглушыць, калі яно ўжо тады было затоплена, альбо інтэграваць у новы будынак.

Іншае пытанне, ці мелі кляштар бенедыктынак і Крыжаўзвіжанскі касцёл, які існаваў пры ім, сувязь праз падземныя тунэлі з іншымі аб’ектамі ў горадзе. У XVII-XVIII стагоддзях гэта была ўскраіна Слоніма. Найбліжэйшы храм — касцёл бернардзінцаў (сённяшні сабор св. Тройцы). Ён знаходзіцца ў некалькіх сотнях метраў. Аднак няма інфармацыі пра тое, што дзесьці паміж гэтымі аб’ектамі былі правалы, выяўляліся фрагменты тунэляў. Да таго ж у пачатку 1980-х каля Чырвонаармейскай вуліцы пабудавалі раённы Дом культуры. І падчас будаўніцтва, нібыта, ніякіх падзямелляў не знаходзілі. На старых планах горада пазначаны вялікі ручай, які з боку цяперашняй пятай школы ішоў да Шчары (па цяперашняй вуліцы Кутузава), а гэта была б перашкода для будаўнікоў падземных тунэляў.

●*Сяргей Ёрш*






104. Kościół i klasztor Benedyktynek. Plan sytuacyjny.
Wycinek planu Słonimia z r. 1796.




105. Kościół i klasztor Benedyktynek. Plan sytuacyjny.
Wycinek planu Słonimia z r. 1823.

***У кнізе “Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim” (Kraków, 2013) можна пабачыць фрагменты планаў Слоніма 1796 і 1823 гадоў. На першым драўляны касцёл знаходзіўся перад будынкам кляштара, на другім — мураваны касцёл прымыкаў да ўжо мураванага будынку кляштара.***




***Былы будынак кляштару бенедыктынак. Фота 1930-х гадоў.***



***На плане 1823 года можна пабачыць ручай, які перасякае цяперашнюю Чырвонаармейскую вуліцу (былую Скрабаўскую) і бяжыць да Шчары. На вуліцы ў той час быў мост.***

# Пра завулак Косаўскі тракт у Слоніме

Час мяняе аблічча горада. Некаторыя вуліцы і завулкі захаваліся з невялікімі зменамі, іншым пашанцавала менш — яны шмат разоў перабудоўваліся, часткова ці цалкам. Завулак Косаўскі тракт, які знаходзіцца каля вайсковай часткі ў Слоніме паўсотні гадоў таму змяніў сваё аблічча. Пра гэта памятаюць толькі людзі старэйшага пакалення. Сталы чытач "СК" Васіль Іванавіч Рубец зрабіў схему, на якой пазначыў, як выглядаў завулак Косаўскі тракт на 1960 год. У той час ён быў значна даўжэйшы, ішоў у Рышчыцы да вуліцы Мендзялеева.



*Будучы завулак Косаўскі тракт каля вайсковай часткі ў Слоніме. Фота 1917 года.*

Як відаць на аэрафота, зробленым у 1917 годзе з нямецкага самалёта, завулак ужо існаваў, але на ім было ўсяго некалькі будынкаў. Актыўнае будаўніцтва пачалося ў пасляваенныя гады. З часам была адведзена да вуліцы Косаўскі тракт рэчка Вельжабка, якая праходзіла праз завулак і тэрыторыю вайсковай часткі ды прыносіла нямала праблемаў, калі разлівалася. Праз яе раней быў перакінуты мост.

На схеме лічбамі пазначаныя жылыя дамы ў завулку. На 1960 год у доме № 2 жыў Антон Міхайлавіч Забалоцкі, № 8 — Анатоль Якаўлевіч Іофе, № 10 — Павел Іванавіч Леўчык, № 12 — Сямён Зазуля, № 14 — Сяргей Іванавіч Баравецкі, № 16 — Іван Сідаравіч Рубец, № 18 — Мікалай Мікалаевіч Ёрш і Мікалай Кавалеўскі, № 20 — Іван Іванавіч Наўгародскі, № 22 — Мікалай Іванавіч Гуда, № 24 — Касцюк, № 26 — Іван Лагоша, № 28 — Іван Матушэўскі, № 30 — Аляксандр Пятровіч Труш, № 32 — Георгій Іванавіч Бойка.

Васіль Рубец успамінае, што ў сярэдзіне 1960-х ваеннае камандаванне прыняло рашэнне аб пашырэнні тэрыторыі вайсковай часткі ў Слоніме. У выніку ўчастак завулка з боку Рышчыц быў аддадзены вайскоўцам, некалькі дамоў знеслі, а для іх жыхароў пабудавалі новыя на вуліцы Морыса Тарэза. Сам завулак быў значна шырэйшы, чым цяпер, але яго звузілі плотам вайсковай часткі.

Прапануем увазе чытачоў "СК" невялікія ўспаміны Васіля Рубца, якія змяшчаюцца ў скароце.

●*Сяргей Ёрш*

Маё знаёмства з горадам Слонімам пачалося вясной 1953 года. Бацька працаваў слесарам на аўтарамонтным заводзе і будаваў уласны дом па завулку Косаўскі тракт. У горад першы раз ехалі на падводзе з дзедам Сідарам Іванавічам, везлі ў млын збожжа. Усе 13 кіламетраў шляху з вёскі Сурынка я з цікавасцю разглядаў незнаёмыя мясціны. Ехаў на "рублі", выступаючым у канцы воза, то бег услед… Неўзабаве паказаўся горад, а потым на яго ўскраіне пабачыў бацькоўскую хату…

Жыць у Слонім мяне забралі з вёскі ў 1956 годзе, перад пачаткам вучобы ў школе. Цікавым было першае знаёмства з мясцовымі хлапчукамі. Усе яны — дзеці пасляваеннага часу, і гульні былі "пра вайну". У наваколлі на ўзгорках яшчэ заставаліся акопы, траншэі, у зямлі знаходзілі ржавую зброю часоў вайны, часам небяспечную. Былі выпадкі калецтваў сярод дзяцей.

Аднойчы ў траншэі адкапалі сховішча невядомых нам скрынак, а ў іх — банкі з малюнкамі ў выглядзе чалавечага чэрапу з чорнай палоскай. Пачалі ўскрываць, імгненна адчулі незнаёмы пах. Цела, вочы адчулі невыносны боль. Мы кінуліся да вады, мылі атручаныя мясціны цела. Але боль яшчэ працягваўся на працягу некалькіх дзён, часткова быў страчаны зрок. Пазней мой брат Мікалай, які служыў у Германіі, быў афіцэрам, распавёў, што бачыў у адным з музеяў падобную банку. Магчыма, гэта быў "Зарын".

Завулак Косаўскі тракт пачынаўся ад Рышчыц. Быў час, калі машыны, вазы маглі праехаць туды.

У завулку быў невялікі масток. Дзесьці ў канцы 1950-х падчас дзіцячых гульняў я залез пад яго праз невялікі лаз. Там пабачыў драты, якія цягнуліся ад уваходу, збоку віселі круглыя прадметы. Усё гэта я выцягнуў навонкі. На маё шчасце міма праходзіў афіцэр, які звярнуў увагу на маю знаходку. "Гэта нямецкія элек-

трычныя міны", — сказаў ён, усё ў мяне забраў і выклікаў сапёраў…

З Косаўскага тракту ў вайсковую частку дарога ішла праз наш завулак, а па абодва яе бакі цягнуліся вучэбныя штурмавыя пляцоўкі: акопы, бліндажы, двухпавярховыя шчыты, спартыўныя бярвенні.

На ўскраіне горада на ўзгорку каля Рышчыц у час і пасля вайны была ўмацаваная зенітная батарэя. У 1960-я гады яе замянілі зенітныя двухствольныя самаходныя ўстаноўкі на базе танкаў, бліндажы апусцелі. Крыху далей у бок Рышчыц стаяў падбіты нямецкі танк без башні.

У канцы Косаўскага тракту з левага боку быў вялікі пясчаны кар'ер. Штогод 9 траўня, у дзень Перамогі, тры танкі заязджалі на гэты ўзгорак і тройчы стралялі халастымі зарадамі. Такая была традыцыя. Мы, падлеткі, клаліся ў гэты момант на зямлю і адчувалі, як яна дрыжыць ад стрэлаў.

Пазней на гэтым месцы з'явіліся радыёлакацыйныя машыны, стаялі вялікія антэны, хісталіся лакатары. Штодня ўвечары ў неба ўздымаліся надзьмутыя геліем вялікія шары дыяметрам да трох метраў з прычэпленым знізу нейкім прыборам. Сапсаваныя прыборы салдаты выкідвалі на сметнік, які быў побач. А мы іх разбіралі. Было дзіўна — ад невялічкай батарэйкі гарэла лямпачка на 220 вольт. З радыёдэталяў мы навучыліся рабіць радыёпрыймачы. І ў нашым дзіцячым "штабе" зайграла музыка.

Захапленняў было шмат. На грошы, атрыманыя за здадзеныя бутэлькі, купілі фільмаскоп, з гумы выразалі штамп для друкавання білетаў і вечарам у суботу паказвалі дыяфільмы дарослым і дзецям нашага завулка. За гэты здабытак папаўнялі фільматэку. А ў суботы і нядзелі мы глядзелі кіно на пляцоўках каля




казармаў разам з вайскоўцамі.

Зімой рабілі санкі, буй з канькоў "снягурак", ставілі ветразь і каталіся па лёдзе на вялікай замерзлай лужыне, дзе цяпер Салдацкае возера. Там жа гулялі ў хакей.

Каля Рышчыц па Косаўскім завулку былі два стрэльбішчы. Па рэйках там рухаліся жалезныя макеты танкаў. Яны механічна хісталіся, чым ускладнялі прыцэльнасць стрэльбаў.

Памятаю, як у Слоніме здымалі кінастужку "Стальная калыска". Часткова здымкі адбываліся на згаданым стрэльбішчы і мы назіралі за іх ходам. Неяк рэжысёр вельмі хваляваўся з-за няўдалага дублю ў танку, доўга спрачаўся з артыстам.

Вясной, пасля вельмі снежных зім, снег хутка таяў, і ручай разліваўся. Вада вакол хат стаяла з тыдзень, глыбіня была каля 60 сантыметраў. Сусед тады майстраваў драўляны плот і на ім дабіраўся да ўзвышша. Мы, дзеці, плавалі ў драўлянай вялікай балеі. У адным месцы агарода з'явілася варонка і вада хутка сыходзіла ў яе. Магчыма, яна знаходзіла старое рэчышча ручая, які раней працякаў праз наш агарод.

●*Васіль Рубец*

# Запіс пра хрышчэнне слонімца ў царкве ўкраінскага горада Мікалаева

У Дзяржаўным архіве Мікалаеўскай вобласці Украіны захоўваецца метрычная кніга мясцовай Старакупецкай праваслаўнай царквы. 150 гадоў таму у ёй быў зроблены наступны запіс:

*“8 лістапада 1867 г. па дазволе Яго Высокапрэасвяшчэнства асветлены Святым хрышчэннем і імем Міхаіл, Гродзенскай губерні г. Слонім яўрэй Берка Моўшавіч Вайнберг, 23 гадоў. Хроснымі былі: адстаўны падпалкоўнік Аляксей Аляксеевіч Грэйг і жонка святара Рыгора Міхайлоўскага Марыя Феліксаўна”.*

Адзначым, што Аляксей Грэйг (1825? — 1876) — старэйшы сын расійскага адмірала



Аляксея Самуілавіча Грэйга, камандуючага Чарнаморскім флотам у 1840-1845 гадах.

Бацька адмірала, шатландскі марскі афіцэр, перайшоў на расійскую службу. Жонкай Аляксея Грэйга-старэйшага была яўрэйка Лія Моўшаўна Рафаловіч, якая паходзіла з Магілёўшчыны. Яна таксама прыняла хрышчэнне, стала Юліяй Міхайлаўнай Сталінскай.

На жаль, інфармацыі пра лёс Берка (Міхаіла) Вайнберга адшукаць не ўдалося. Сярод слонімскіх Вайнбергаў былі вядомыя людзі. У XIX стагоддзі ў Слоніме жыў Аўрам бен Іцхак Вайнберг, заснавальнік новага накірунку ў хасідызме.

●***Генадзь Гурскі***

# Слонімскі купец атрымаў залаты медаль расійскага цара Аляксандра I

Сярод тысячы ўладальнікаў залатога медаля “За стараннасць” (у арыгінале — “*За усердие*”), узнагароджаных у часы праўлення расійскага цара Аляксандра I, быў і адзін слонімец. Гэта купец першай гільдыі яўрэй Гілер Гіршавіч Спакойны.* Такім чынам была адзначана яго сумленная праца — ён пастаўляў прыпасы для ваеннага шпіталя ў Слоніме, і харчаванне было якаснае. Спакойны быў узнагароджаны ў траўні 1812 года, напярэдадні вайны. Ужо праз месяц свой медаль на пунсовай стужцы ён схаваў, паколькі наш горад






быў заняты напалеонаўскімі войскамі і ў купца, які аказваў паслугі расійскім уладам, маглі ўзнікнуць праблемы.

●***Генадзь Гурскі***

**Акты, издаваемые Виленскою комиссiею для разбора древнихъ актовъ*

*Том XXXVII. Документы и матеріалы, относящiеся къ исторіи Отечественной войны 1812 г. — Вильна, 1912. С. 106-107.*

# У Слоніме прайшоў краязнаўчы марафон

9 жніўня ў Слоніме прайшоў раённы турыстычна-краязнаўчы марафон “Ведай свой край — сябе выхавай”. Як піша “Слонімскі веснік”, у гарадскім парку сабраліся восем каманд школьнікаў. Дзякуючы мерапрыемству яны больш даведаліся пра гісторыю Слонімшчыны.






АСОБА

# Юзаф Шыманчык фатаграфаваў Слонім

Сярод тых, хто пакінуў неацэнную беларускую фатаграфічную спадчыну першай паловы XX стагоддзя, быў беларускі фатограф Юзаф Шыманчык (1909 — 2003).

Нарадзіўся Шыманчык у Косаве. Будучы 14-гадовым хлопчыкам, Юзік упершыню выпадкова пазнаёміўся з фотаапаратам. Захапленне тэхнікай і фотамастацтвам змяніла яго жыццё. Пачынаў юнак як самавук. Але з часам набыў прафесійнае майстэрства і заснаваў сваё фотаатэлье — спачатку ў родным Косаве, а потым у Слоніме падчас Другой сусветнай вайны вайны, а пасля 1945 года — у Польшчы ў Кутне.

Захоплены ідэяй Яна Булгака, які быў прыхільнікам фатаграфавання Бацькаўшчыны, ён з рэпарцёрскім запалам дакументаваў Беларусь — здымаў беларускае Палессе, азёры Белае і Спораўскае, Косава, вёску Пескі (цяпер — у Бярозаўскім раёне), Слонім, Пінск, сялян, рабочых, сцэны быту вяскоўцаў, іх цяжкую працу і г. д. Захавалася каля 400 этнаграфічных і дакументальных здымкаў з Палесся. 50 фотаздымкаў у Юзафа Шыманчыка набыў у 1990-я гады Бярозаўскі гісторыка-краязнаўчы музей. Фатограф падараваў музею і адзін са сваіх фотаальбомаў.

Пасля вайны Юзаф Шыманчык некалькі разоў наведваў Беларусь. У 1999 годзе ён прыязджаў сюды разам са здымачнай групай Варшаўскага тэлебачання. На Косаўшчыне, у Слоніме і ў іншых мясцінах, дзе да 1945 года жыў Шыманчык, здымалі пра яго дакументальны фільм “Фатограф Палесся”. Мастак фатаграфіі наведаў мясціны свайго маленства і юнацтва, ён нават змог сустрэцца з героямі сваіх фотаздымкаў, якія яшчэ жылі і нават памяталі, як ён іх фатаграфаваў. Пазней гэты фільм музею ў Бярозе падаравала дачка Юзафа Шыманчыка Ірэна Даманьска.

Дарэчы, Даманьска, якая цяпер жыве ў Лодзі, у 2012 годзе ў Варшаве ў галерэі “Вазоўня” наладзіла выставу, прысвечаную бацьку. Выстава мела назву “Юзаф Шыманчык: паміж фатаграфіяй бытавой і “айчыннай фатаграфіяй”. Наведвальнікі выставы і крытыкі ў польскай прэсе адзначалі, што аўтар здымкаў 30-х гадоў XX стагоддзя не толькі фіксаваў прыгажосць тых месцаў, дзе бываў, але паказаў таксама прозу жыцця, часта вельмі беднага.



*Юзаф Шыманчык з жонкай Аленай Ласько ў Слоніме, канец 1930-х гадоў.*

У 1990-я гады я перапісваўся з Юзафам Шыманчыкам. Ён жыў тады ў дачкі ў Лодзі. Спадар Шыманчык заўсёды быў рады маім пісьмам і выданням, якія я дасылаў. У знак падзякі ён кожны раз высылаў мне свае здымкі Слоніма 1942-1944 гадоў. Здымкі ўнікальныя, рэдкія, якасныя, цікавыя. І яны менш вядомыя беларусам і палякам, чым цыкл здымкаў беларускага Палесся. Хаця ані ў тэхнічным, ані ў мастацкім сэнсе яны не саступаюць палескім. Шмат слонімскіх здымкаў Юзафа Шыманчыка я публікаваў раней, але яшчэ далёка не ўсе.

Да вайны Юзаф Шыманчык пазнаёміўся з Аленай Ласько, якая была родам таксама з Косава і працавала швачкай. Яны пажаніліся і ў пачатку Другой сусветнай вайны Шыманчык і Ласько пераехалі ў Слонім, жылі ў самым цэнтры горада ў старым двухпавярховым доме на другім паверсе з балконам. У цэнтры горада Юзаф меў фотамайстэрню. Яго не чапалі ні партызаны, ні немцы, ніхто. Ён займаўся толькі фотасправай. Фатаграфаваў усіх, хто прыходзіў да яго ў майстэрню, ці прасіў сфатаграфаваць дома.

Аднойчы ў горадзе адбыўся мітынг. Выйшла на балкон паслухаць выступоўцаў і Алена Ласько, якая ўжо была цяжарная. Але ж трэба было здарыцца бядзе: балкон абваліўся і Алена загінула. Юзаф Шыманчык моцна перажываў смерць каханай.

У ліпені 1944 года, калі немцы пакінулі Слонім, савецкія салдаты кінулі гранату ў фотамайстэрню спадара Шыманчыка. Усё згарэла. Выратаваць Юзафу ўдалося некаторыя здымкі і негатывы, якія знаходзіліся ў падвале.

Пасля вайны Юзаф Шыманчык паехаў жыць у Польшчу, дзе яшчэ сорак гадоў працаваў фатографам у гарадку Кутна. З выхадам на пенсію, у 1985 годзе, ён пераехаў у Лодзь.

Усё, што сфатаграфаваў і пакінуў беларусам і палякам Юзаф Шыманчык у першай палове XX стагоддзя, яшчэ належным чынам не ацэнена спецыялістамі-этнографамі і гісторыкамі. Яго фотаздымкі ўжо набылі музеі і бібліятэкі Варшавы, Кракава, Беластока, Мінска, Вільні, Бярозы, Слоніма, Пінска, Пружан і іншых гарадоў. Яго працы сёння выклікаюць жывую цікавасць ва ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны і хто неабыякавы да яе.

Прапаную чытачам “Слонімскага краю” некалькі фотаздымкаў Юзафа Шыманчыка. На іх адлюстраваны Слонім 1943 года.

●*Сяргей Чыгрын*



*Скрыжаванне Замкавай і Агароднай вуліц, цяпер — Камсамольскай і Багушэвіча.*



*Старое дрэва каля касцёла св. Андрэя на Замосці.*




*На бліжэйшым будынку на Гандлёвай плошчы (цяпер — Леніна) можна пабачыць дату: 1938 год.*



# Фотамастак і скульптар Мішэль Сіма, які сябраваў з Пабло Пікаса



bleek-magazine.ru



Пабло Пікаса.

Сёлета многія расійскія СМІ напісалі пра слонімца Мішэля Сіму. Падкрэслівалася, што ён паходзіць з нашага горада, што тут прайшло яго дзяцінства і юнацтва. А нагодай стала выстава ў Маскве пад назвай “Геніі ў майстэрнях. Закуліссе парыжскай арт-сцэны”. На здымках фатографа — знакамітасці, скульптары, мастакі, паэты: Пабло Пікаса, Анры Маціс, Марк Шагал, Жан Както, Марсэль Дзюшан… На працягу дзесяцігоддзя Сіма здымаў іх у майстэрні. Атрымалася цэлая серыя, якая карыстаецца поспехам.

Мішэль Сіма нарадзіўся ў Слоніме 20 траўня 1912 года ў яўрэйскай сям’і. Тады ён яшчэ быў Міхаілам Змаеўскім. З дзяцінства захапляўся маляваннем, спрабаваў рабіць невялікія скульптуры. Сям’я была не бедная. У 17-гадовым узросце, пасля заканчэння яўрэйскай школы, слонімец паехаў у Парыж, каб атрымаць адукацыю і стаць скульптарам. Каля года вучыўся ў акадэміі Гранд-Шам’ер, а пасля стаў працаваць непасрэдна ў скульптараў. Быў вучнем Восіпа Цаткіна. У той час і пачалося яго знаёмства, якое перарасло ў сяброўства з многімі знакамітасцямі (з тым жа Пабло Пікаса).

Каб мець сродкі на жыццё, Змаеўскі стаў фатографам. У сярэдзіне 1930-х рабіў фотарэпартажы для інфармацыйных агенцтваў, у тым ліку і пра палітычныя падзеі. Парадаксальна, што менавіта фота, а не скульптура, зрабіла яго знакамітым. Што да творчага псеўданіма “Мішэль Сіма”, то яго яму падказалі сябры. “Sima” — гэта слова “amis” (сябры), калі яго чытаць наадварот.

Падчас Другой сусветнай вайны слонімец хаваўся ад нацыстаў у правінцыі, але быў арыштаваны ў жніўні 1942 года, апынуўся ў нацысцкім канцлагеры. Сіма выжыў у Асвенцыме, вярнуўся ў Францыю хворы, доўгі час не мог забыць перажытае за калючым дротам. Вярнуцца да творчасці яму дапамог Пікаса, які прапанаваў здымаць яго за працай. У 1948 годзе выйшаў фотаальбом “Пікаса ў Антыбе”.

З пачатку 1950-х зноў жыў у Парыжы, у знакамітай артыстычнай калоніі “Вулей”. У 1962-м нарадзіўся сын. Праз пяць гадоў яны перасяліліся ў гарадок Ардэш.

Адным з нядаўніх інтэрв’ю П’ер Змаеўскі казаў: *“Перш за ўсё, мой бацька быў партрэтыстам, ён любіў людзей. Скульптуры і фатаграфіі з’яўляюцца чымсьці накшталт правадыра, якога ён для сябе абраў, каб выказаць гэтую любоў. Самаўлюбёнасць ці якое-небудзь самалюбаванне былі яму чужыя, і, мне здаецца, папулярны сёння феномен “сэлфі” хутчэй за ўсё выклікаў бы ў Сімы толькі пагарду. Сіма быў вельмі сціплым чалавекам”.*

У канцы 1950-х выйшаў фотаальбом Мішэля Сімы “Твары дваццаці аднаго мастака”. Аўтар быў расчараваны кепскай якасцю друку і больш свае здымкі не друкаваў, займаўся выключна скульптурай.

Нашага земляка не стала ў красавіку 1987 года. Атрымліваецца, што на бягучы год прыпадаюць 30-я ўгодкі з дня яго смерці і 105-я з дня нараджэння. Варта было б падумаць, як ушанаваць памяць знакамітага земляка ў нашым горадзе.

●***Генадзь Гурскі***

НЕЗАБЫЎНАЕ

# Бежанства — трагічная старонка нашай гісторыі

*Працяг, пачатак у № 6-7, 2017 г*

**Бежанцы Слонімскага павета ў Томскай губерні (1915-1916 гады)**



77. **Горбач Васіль Гр.**, з ім муж.1, жан. 2. Прыехалі са Слонімскага павета Быценьскай воласці. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Турнаева.

78. **Горбач Зін. Ст.**, з ёй 2 муж. Прыехалі са Слонімскага павета Быценьскай воласці. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Турнаева.

79. **Горбач Мар. Міх.** Прыехаў з Быценьскай воласці. Часова спыніўся ў Томскім павеце, сяле Сцяпаніха.

80. **Горбач Максім Міх.** Прыехаў з Быценьскай воласці. Часова спыніўся ў Томскім павеце, вёсцы Лябяжжа.

81. **Горбач Наталля Віктараўна,** з ёй жан. 2. Прыехалі са Слонімскага павета. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Турнаева.

82. **Гарбачэвіч Тэаф. Ів.**, 18 гадоў. Прыехаў з Дзярэчынскай воласці, вёскі Тамашы. Часова спыніўся ў Томску.

83. **Гарахавік Ан.,** 31 год, дзеці: Ів., 8 гадоў, Сяр., 3 гады. Прыехалі са Слонімскага павета, вёскі Любішчына. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

84. **Гардзейчык Піліп Паўл.**, 46 гадоў, жонка Ан., 35 гадоў, дзеці: Ал., 12 гадоў, Міх., 2 месяцы. Прыехалі з Косаўскай воласці, вёскі Гошчава. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

85. **Грыбчук Мікалай Лявонавіч,** з ім муж.1, жан.1. Прыехалі з Быценьскай воласці. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Шчаўкоўнікава.

86. **Градоўскі Алд. Восіп.**, з ім муж. 3, жан. 3. Прыехалі са Слонімскага павета. Часова спыніліся ў Томскім павеце, сяле Паламошнае.

87. **Грасевіч Уладзімір Максімавіч,** 16 гадоў, сястра Аг., 13 гадоў. Прыехалі з вёскі Вялікая Кракотка. Часова спыніліся ў Томску на вуліцы Падгорнай, 66.

88. **Грэнкоўскі Мікалай Карпавіч**, 54 гады, жонка Аг.,50 гадоў, дзеці: Ант., 20 гадоў, Пав., 16 гадоў, Ів., 13 гадоў, Фёк., 11 гадоў, бацька, 72 гады. Прыехалі з Дварэцкай воласці, вёскі Ліжэйкі. Часова спыніліся ў Кузнецкім павеце, вёсцы Новабачацкая.

89. **Грыневіч Ан. Дм.,** з ім жан.1, муж.1. Прыехалі са Слонімскага павета. Часова спыніліся ў сяле Міхайлоўскае.

90. **Грынкоўскі Як. Вік.**, з ім муж.2, жан.2. Прыехалі з Дварэцкай воласці вёскі Талкуны. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, пасёлку Дупленскі.

91. **Грынцэвіч Міхаіл Міхайлавіч,** жонка Алена, дзеці: Ів., Мар., Мік., Юл., Вікт., Яўг. Прыехалі з Дзятлаўскай воласці, вёскі Юравічы. Часова спыніліся ў Татарску.

92. **Грынчук Дом**. і дзеці. Прыехалі з вёскі Ганькі. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

93. **Грушэўская Кац.**, з ёй 7 чалавек. Прыехалі з вёскі Пе-равалока. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

94. **Грыцэлева Ева Як.**, 57 гадоў, дзеці: Соф., 20 гадоў, Анаст., 18 гадоў, Канст., 16 гадоў. Прыехалі з вёскі Азярніца. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, пасёлку Владзіслаўскі.

95. **Грыцук Алд. Вас.**, 43 гады, жонка Марфа, 44 гады, дзеці: Н., 15 гадоў, Мар.,7 гадоў, Алд., 6 гадоў, Агапія, 4 гады, маці Юст., 55 гадоў, сёстры Ганна, 24 гады, Пр., 22 гады, Ф., 20 гадоў. Прыехалі з Дварэцкай воласці. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, пасёлку Владзіслаўскі.

96. **Грышчэня Сямён Андрэевіч**, 70 гадоў, дзеці: Кан.,14 гадоў, Ганна, 27 гадоў. Прыехалі з вёскі Чамяры. Часова спыніліся ў Томскім павеце, п/а Балотнае.

97. **Грушэўская К.** з сям'ёй. Прыехала з вёскі Перавалока. Часова спынілася ў Ніжнім Нікалаеўску.

98. **Густар Ант. Вос.**, 33 гады, жонка Мар., 28 гадоў, дзеці: Вера, 9 гадоў, Ул., 5 гадоў, Міх., 3 гады, маці Алд. Гр., 70 гадоў. Прыехалі з Ружанскай воласці, вёскі Астравок. Часова спыніліся ў Томскай губерні, сяле Ішымскае.

99. **Дашэвіч Дз.**, 30 гадоў, жонка

Ан., 26 гадоў, дзеці: Алена, 7 гадоў, Аг., 5 гадоў, Міх., 2 гады. Прыехалі з вёскі Ялоўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце ў вёсцы Мальцава.

100. **Дземідовіч Якаў Якаўлевіч** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Драпава. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

101. **Дземухоўская Ганна Ал.**, з ёй мужчын 2, жанчын 3. Прыехалі з вёскі Гавенавічы. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

102. **Дабрыян Мікалай Раманавіч**, 27 гадоў, жонка Кацярына, 23 гады, дзеці: Мікалай, 3 гады, Мар., 2 гады. Прыехалі з вёскі Асабнякі. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

103. **Дабрыян Раман Васільевіч**, 67 гадоў, сын Антон, 24 гады, дзеці: Ул., 3 гады, Вольга, 2 гады. Прыехалі з вёскі Асабнякі. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

104. **Дробчык Як. Як.**, 60 гадоў, жонка Дар., 46 гадоў, дзеці: Міх., 16 гадоў, Вс., 14 гадоў, Ул., 6 гадоў, Ан., 10 гадоў. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

105. **Ермаловіч Макс. Макс.** Прыехаў з Косаўскай воласці, вёскі Булы. Часова спыніўся ў горадзе Багатол.

106. **Ермаловіч Марфа Ів.**, 60 гадоў, з ёй Ав. Сям., 25 гадоў, Мік., 5 гадоў. Прыехалі з вёскі Ахрыпаўцы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, сяле Балаганы.

107. **Ермаловіч Мікалай**, 43 гады, жонка Мар., 42 гады. Прыехалі з вёскі Рудні. Часова спыніліся ў сяле Балотнае Томскага павета.

108. **Ермаловіч Раман Іосіфавіч,** 50 гадоў, жонка Мар., 46 гадоў, дзеці: Нат., 25 гадоў, Ган., 17 гадоў, Іос., 14 гадоў, Вольга, 6 гадоў. Прыехалі з вёскі Заполле. Часова спыніліся ў сяле Балотнае Томскага павета.

109. **Ёрш Пелагея** з сям'ёй. Прыехала з вёскі Вераб'евічы. Часова спынілася ў Ніжнім Нікалаеўску.

110. **Жэна Ант. Вікент.**, з ім 2 мужчыны і 2 жанчыны. Прыехалі з Міжэвіцкай воласці. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.



*Фота: nasledie-sluck.by*

111. **Жыткевіч Мікалай Францавіч,** 48 гадоў, жонка Тат. Карп., 32 гады, дзеці: Ан., 18 гадоў, Люб., 14 гадоў, Соф.,12 гадоў, Алена, 8 гадоў, Алд., 2 гады, маці Ул. Ів., 80 гадоў. Прыехалі з вёскі Кракотка. Часова спыніліся ў раз'ездзе Кошкуль.

112. **Жых Дар'я Вос.**, 18 гадоў. Прыехала са Слонімскага павета. Часова спынілася ў п/а Качэнева.

113. **Жук Варвара Гр.**, 55 гадоў, Соф'я, 14 гадоў. Прыехалі з Быценьскай воласці. Часова спыніліся ў п/а Балотнае.

114. **Жыліч Ант**. з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Міжэвічы. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

115. **Жыліч Мар. Як.**, з ёй 2 жанчыны. Прыехалі з вёскі Драпава. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

116. **Зянко Ст. Міх.**, 60 гадоў, жонка Ліза, 58 гадоў, дзеці: Вік., 30 гадоў, Алена, 23 гады, Каця, 16 гадоў. Прыехалі з вёскі Мыслава. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

117. **Іванчук Ан. Міх.**. Прыехаў з вёскі Галынка. Часова спыніўся ў Бійску.

118. **Іскрык Лука Ігн.**, з ім 4 мужчыны і 2 жанчыны. Прыехалі з вёскі Сакалова. Часова спыніліся ў пасёлку Ціхаміраўскі.

119. **Кароцька Макс.** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Мыслава. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

120. **Касперская Анастасія** з сям'ёй. Прыехала з Дзярэчынскай воласці. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

121. **Кідайла Фёдар** з жонкай. Прыехалі з вёскі Залацеева. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

122. **Клімко Мацвей** з сям'ёй. Прыехаў з вёскі Мядзвінавічы. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

123. **Калодка Сямён Гр**. Прыехаў з вёскі Шулякі. Часова спыніўся ў Бійскім раёне, сяле Шубенскае.

124. **Кананові Васіль** Ст., 46 гадоў. Прыехаў з вёскі Вострава Міжэвіцкай воласці. Часова спыніўся ў Томскім павеце, вёсцы Усць-Іня.

125. **Казялецкі Кірыл**, 44 гады, жонка Ол., 32 гады, дзеці: Леў, 15 гадоў, Вера, 11 гадоў, Соф'я, 9 гадоў, Мар., 1 год. Прыехалі з вёскі Мяльканавічы. Часова спыніліся ў Пачынскім павеце, вёсцы Баранава.

126. **Канапліцкая Алена** Ів. Прыехала з вёскі Юравічы. Часова спынілася ў горадзе Татарск.

127. **Кароцька Трафім** з сям'ёй. Прыехаў з вёскі Мыслава. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

*Публікацыя ● **Сяргея Чыгрына***

*Працяг у наступным нумары*

# Пра генерал-маёра Міхаіла Расійскага

На Ружанскіх могілках у Слоніме захаваўся помнік генерал-маёру рускай арміі, камандзіру 118-га Шуйскага пяхотнага палка Міхаілу Аляксандравічу Расійскаму. Ён пашкоджаны — вандалы збілі крыж. Гэтае пахаванне менш вядомае, чым магіла рускага генерала Міхаіла Лявіцкага, якая знаходзіцца пад аховай дзяржавы.




Міхаіл Расійскі нарадзіўся 7 лістапада 1862 года (месца нараджэння невядомае, але гэта была Расія, магчыма, Арлоўшчына). Ён мог быць сынам генерал-лейтэнанта Аляксандра Расійскага (1834 — 1897) і братам яшчэ двух рускіх генералаў... Вучыўся Міхаіл Расійскі ў Паўлаўскай ваеннай вучэльні (разам з будучым папулярным паэтам Сямёнам Надсанам), пасля — у Міхайлаўскай ваеннай вучэльні, стаў паручнікам. Пасля былі Міхайлаўская артылерыйская акадэмія (закончыў яе ў 1888 годзе), Мікалаеўская акадэмія Генштабу (1892). Служыў камандзірам роты, батальёна. У 1894-1898 гг. Расійскі выкладаў у Маскоўскай пяхотнай юнкерскай вучэльні, з 1897-га ён быў падпалкоўнікам, з 1901 года — палкоўнікам. Служыў афіцэрам для даручэнняў пры штабе Маскоўскай вайсковай акругі (у 1898-1902 гадах), начальнікам штабу 2-й грэнадзёрскай дывізіі (у 1902-1904 гадах). У чэрвені 1904-га Міхаіл Расійскі стаў камандзірам 6-га грэнадзёрскага Таўрычаскага палка. Прызначэнне ў Слонім прыйшло ў канцы 1904 года. З 10 снежня ён камандаваў 118-м Шуйскім пяхотным палком.* Званне генерал-маёра атрымаў ў 1910 годзе незадоўга да смерці.** Вядома, што менавіта Расійскі здолеў атрымаць з дзяржаўнай казны 42 тысячы залатых рублёў, на якія на тэрыторыі вайсковай часткі пабудавалі праваслаўную царкву імя Аляксандра Неўскага (яна была асвечана 22 студзеня 1910 года).***

Міхаіл Расійскі памёр 20 сакавіка 1910 года. У яго засталіся жонка і сын. Помнік яму паставіла сям'я і афіцэры палка. Пяць гадоў таму шэфства над магілай генерал-маёра Расійскага ўзялі навучэнцы медыцынскага каледжу. ●*СЁ*

*http://ria1914.info

**http://www.rusgeneral.ru/general_r3.html

***Курьян О. Эстафета памяти // Слонімскі веснік, 2012, 14 лістапада; http://www.slonves.by/2012/11/estafeta-pamyati/*

ДАВЕДКА:

Шуйскі 118-ы пяхотны полк рускай арміі быў створаны ў 1711 годзе. Згаданы варыянт назвы атрымаў у 1864-м. У Слоніме дыслакаваўся ў пачатку XX стагоддзя, уваходзіў у склад 30-й дывізіі.



Пасля смерці генерал-маёра Міхаіла Расійскага палком камандавалі палкоўнік Аляксандр Маркаў (1910 — 1911), палкоўнік (пасля — генерал-маёр) Мікалай Стасюк, палкоўнік Сяргей Труноў (1915 — 1917). Дакументы палка і палкавой царквы, якая існавала ў Слоніме з 1910 года, захоўваюцца ў Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве.

**"Слонімскі край"** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару ***Сяргей Чыгрын***.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**